# вандроўнае СЛОВА

## Вандроўка „Балагану” і „Жывога слова” па Беласточчыне

## Гміна Гарадок — 21-27 жніўня 1994 г.

Зубкі — Свіслачаны — МАСТАУЛЯНЫ — Зялёна — ЗУБРЫ — Бялевічы — СТРАШАВА — ГАРАДОК — Валілы-станцыя — Случанка — ВАЛІЛЫ — Каралёва-Стойла — Радулін — ЗАЛУКІ

| КАЛІ? | ДЗЕ? |
|---|---|
| Нядзеля, 21 жніўня 1994 г. | прыезд тэатра „Жывое слова” з Менска ў Беласток. Прыезд чыгункай (PKP) у Зубкі. Пераход з Зубкаў праз Свіслачаны ў Мастаўляны. |
| Панядзелак, 22 жніўня | Мастаўляны — Зялёна — Зубры. |
| Аўторак, 23 жніўня: | Зубры — Белявічы — Страшава. |
| Серада, 24 жніўня | Страшава — Гарадок. |
| Чацвер, 25 жніўня | Гарадок — Валілы (станцыя) — Случанка — Валілы (вёска). |
| Пятніца, 26 жніўня | Валілы — Каралёва-Стойла — Радунін — Залукі. |
| Субота, 27 жніўня | праезд аўтобусам (PKS) з Залукаў у Беласток. Выезд тэатра „Жывое слова” ў Менск. |

*Кожны дзень прадбачваюцца мастацкія выступленні ўдзельнікаў вандроўкі ў мясцовасцях на шляху, бяседы з мясцовымі жыхарамі ля вогнішча, наведванне цікавых месцаў.*

## СЛОВА НА ВАНДРОЎКУ

„Дзе мы? Хто мы?” — адвечныя нашы пытанні. Жывем у цэнтры Еўропы, называем гэтае месца „родны кут”. Узгадаваныя сваёй старонкай блукаем чужымі дарогамі. Забылі сваё імя?! Не! Не ўсе забылі.

*Кожны народ павінен быць перш толькі сам свой, з сваёй душой, з сваімі поглядамі, з сваім прыродным аблічам, бо інакш гэта будзе не народ, а нейкія цені, у каторых нічога не разбярэш. Як кожны чалавек, так і народ павінен старацца развіць тое ў сабе, што заложана ў яго самой прыродай. Тады ён толькі знойдзе сваю ўласную дарогу і пойдзе па ёй і прынясе карысць для другіх, а калі ён забудзе аб тым, што ў яго душу залажыў Бог, то і пойдзе чужой дарогай, то ён нічога не зробіць і толькі зблудзіць,* — вось так выказаў сутнасць справы малады (20 гадоў) хлопец з Гарадка Сцяпан Пятэльскі. Ведаеце яго? Не? Ён — сын Язэпа і Ганны, у якіх была вялікая гаспадарка. Было ў іх трох сыноў і тры дачкі. Сцяпан нарадзіўся недзе каля 1890 года, закончыў настаўніцкую семінарыю і стаў педагогам. Гэта М. АРОЛ — беларускі паэт, публіцыст, перакладчык. З 1914 года быў салдатам у час імперыялістычнай вайны. Памёр далёка ад роднага краю, маючы усяго ў 28 гадоў.

Чаму пра такую знакамітую постаць нельга даведацца ў нашых школах? А ён жа звяртаўся *да вучыцеляў з сваім гарачым словам*:

*Развіваць нашу душу па-нашаму, а не па-чужому, гэта наша павіннасць. Нам трэба вучыць нашы вершы, старацца падняць веру ў людзей, што яны людзі, як і ўсе, што наша мова не горшая ад другіх, бараніць нашу песню, а не ганьбаваць сваім родным і не саромецца яго, а любіць усёй душой і працаваць! Працаваць трэба!*

У нас ёсць скарбы: родная зямля з чароўнай прыродай, свая культура з багатымі традыцыямі, славутае мінулае з выдатнымі постацямі. На жаль, часта не цэнім свайго багацця.

Усходняя Беласточчына (гл. карту-схему) ад Бярэсця да Гародні становіць своеасаблівы мост, які злучае на працягу стагоддзяў Усход і Захад. Жывем у важным месцы і таму нам трэба быць вартымі такога месца. Нельга

пагадзіцца на існаванне тут штучна збудаванай недобразычліўцамі сцяны. Тут ніякія не *крэсы* ці *окраина*, а скрыжаванне шляхоў. А мы быццам на раздарожжы вечна шукаем, у які бок падацца. Нікуды не трэба, калі хочам *людзьмі звацца*! Тут наш Усход і наш Захад. Блукаючым на гэтай зямлі пакажам дарогу, добрых гасцей сардэчна прывітаем, а самі будзем на сваім месцы!

**СЫЧАМ І СОВАМ**

Неба на ўсходзе чуць-чуць зашарэла,
Шырыцца свет і расце бы з зямлі.
Вось ужо й першы праменні нясмела
На векавечныя хвоі ляглі.
Зразу збудзіўся гай цёмны да жыцця.
Першым за ўсіх засвістаў салавей.



І пакацілася песня хваліцца
Шырай і далей, мацней, галасней.
Гэта пачуўшы, пташкі падняліся
Яснае сонца хвалой сустракаць.
Што ж вы шчэ, совы, сычы, не ўняліся
Енчыць і сумна па гаю стагнаць?
Ваша пара ўжо прайшла, мінавала.
Цемрыва сонца прагнала з гаю,
Й песні другія пяяць заказала.
Кіньце паганую песню сваю!
Гляньце! (не бачаць, бо вочы сляпыя) —
Ужо рассвітае, пара перастаць!
Вам не вярнуцца, часіны начныя,
І свету вам з гаю ужо не сагнаць!
Лезьце ў свае вы пацемныя норы,
Будзе паганыя песні стагнаць!
Гімнамі шчасця вясёлыя хоры
Выйшлі ўжо яснасць хвалой сустракаць!

*М. Арол*

Летам 1987 года група беларускай моладзі з Беласточчыны запачаткавала цікавую форму культурнай дзейнасці на сваёй зямлі. Сцэнічны калектыў „Парнас", які існаваў у Бельску са сваім родным мастацкім словам і песнямі пайшоў па сваіх вёсках. Традыцыю пераняў „Балаган" з Беластока пры выдатнай дапамозе студэнцкага тэатра „Жывое слова" з Менска. З таго часу кожнае лета ў розных мясцінах усходняй Беласточчыны адбываюцца незабыўныя сустрэчы з мясцовымі жыхарамі. Падчас вандравання моладзь пазнае прыгажосць і багацце гэтай зямлі, наступае ўзбагачэнне культурных каштоўнасцяў.

У гэтым годзе шлях вандроўкі пралягае на тэрыторыі Гарадоцкай гміны (гл. карту шляху вандроўкі), з Зубкоў у Залукі. Тут шмат цікавага. У кожнае мясцовасці свае традыцыі ў мінулым і цяпер. Гэтая зямля нарадзіла многіх выдатных людзей. На жаль, часта не памятае пра іх. Найбольш славутае імя паўстанца Кастуся Каліноўскага з Мастаўлянаў. Аднак, ці ведаем мы пра яго праўду? А ёсць тут сляды многіх знакамітых сыноў нашага народа, пра якіх зусім мала ведаем, напрыклад пісьменніка Аляксея Карпюка, М. Арла, „нашаніўца" Янука Д. (Дарашкевіча), Віктара Гапуніка (герой польскага пагранічнага войска), Юркі Геніюша (лекар і паэт). Пералік можна працягваць. У Валілах жыве сусветна вядомы мастак Лявон Тарасэвіч. Ён застаецца верным сваёй зямлі ды стварыў тут незвычайны культурны аазіс. Будзем рады наведаць яго маляўнічае месца. Падчас вандроўкі на кожным кроку зможам сустрэць добрых людзей, адчуць слаўнае мінулае, пераканацца, што нашая родная старонка найпрыгажэйшая і найцікавейшая пад сонцам. Трэба толькі ўмець адкрываць скарбы гэтай зямлі і даражыць імі!

**ЯН МОРДАНЬ**

# Карта-схема месцазнаходжання вандроўкі




## Слова пра Гарадок

Недзе ў XI стагоддзі ў глыбіні Блудаўскай пушчы, дзе крыжаваліся гандлёвыя шляхі, узнік умацаваны гарадок, якому чамусьці не прыдумалі назвы.

У гарадку хаваўся князь Вітаўт ад брата Ягайлы.

Над ракою Супрасль ёсць абшырнае ўзвышша „Замкавая гара". У 1498 годзе беларускі магнат, наваградскі ваявода Аляксандр Хадкевіч пабудаваў тут манастыр Іаана Багаслова. Затым узвёў яшчэ мураваны палац. Гарадок аказаўся зашумным месцам для манахаў і яны перасяліліся ў новае месца, далі пачатак Супрасльскаму Благавешчанскаму манастыру — славутаму ў Еўропе з XVI стагоддзя.

Ішлі гады, праходзілі многія войны, што шмат зруйнавалі на гэтай зямлі. Захаваўся маляўнічы Гарадок. Цяпер тут сядзіба гміны і шмат цікавага.

**Коратка пра гміну Гарадок**

Плошча — 430,6 кв. км. — 57 прац. займаюць лясы.

Насельніцтва — 7 300 жыхароў у 41 мясцовасцях (у большасці — беларусы).

Мастацкія самадзейныя калектывы:

— хор „Гарадок" — 40 гадоў дзейнасці.

— фальклорны калектыў у Меляшках.




# Выняткі з творчасці Аляксея Карпюка

*На дзедавай спадчыне, у Страшаве і Гарадку, у наваколлі Беластока, і праходзіла маё жыццё.*

*Ці люблю я свае родныя мясціны? Гэта не тое слова.*

*Я мераю, буду мераць да смерці і вучу сваіх дзяцей мераць усё на Страшава: плошчу, дамы, людзей, іхнія ўчынкі, сумленнасць, прыгажосць ды брыдоту, подласць, памеры цярпення, бяду і радасць. БО КОЖНЫ ЧАЛАВЕК — РОДАМ СА СВАЙГО ДЗЯЦІНСТВА!*

(...)

***

*Я і не заўважыў, хто ўбіў мне ў галаву, што кожны страшавец - "мужык". Ён цяжка працуе, рыхтуе мяса, малако, масла, а сам гэтага не есць. У гарадах жывуць паны, яны толькі балююць ды жаруць тое, што нарыхтуе ці выгадуе мужык. Мне сыну мужыка, рабілася крыўдна.*

*- Ух, паны, свалата, толькі пачакайце, няхай адно вырасцем з Валодзькам.!*

*Якраз у тыя гада, калі ў малога глыбока ўкараняецца сэнс і значэнне новага слова, суседчын сын, Сахарышын Юлік, мне растлумачыў: мы не толькі "мужыцкія" дзеці, а яшчэ і беларусы. Нас, беларусаў, вельмі многа, палова з іх жыве ў Саветах, там ім вельмі добра, а мы ў Польшчы мэнчымся.*

*Сказаў Юлік слова - бы нешта ва мне запаліў. Я не проста Алёшка, мужыка Нічыпара сын, а яшчэ і беларус, чаго ніхто ўжо не адменіць.*

*А галоўныя беларусы нікога не баяцца!*

(...)

***

*Гаспадарку абрабляў Мікалай з жонкай. Валодзька хадзіў некуды на сталярку. Вольга - на заробкі то ў лес, то да суседзяў, а Іван дома вучыў... англійскую мову.*

*Іван намерваўся ехаць у Амэрыку, каб адтуль уцячы ў Савецкі Саюз.*

*Уся сям'я зарабляла грошы Івану на дарогу.*

*У Страшаве стварыўся вобраз ідэальнага чалавека, яшчэ прывезенага з эвакуацыі ў першую сусветную вайну з Савецкай Расіі. Кожны яго разумеў па-своему, але назву меў агульную - камуніст. Бабкі яго сабе ўяўлялі падобным да Ісуса Хрыста. Іншыя - разумным і багатым волатам.*

*За граніцай - краіна, дзе ўсім хопіць і занятку, і страхі над галавой. Абзавесціся можна сям'ёй. Толькі рамантык дзядзька Іван надумаўся ўцякаць туды праз Амэрыку, іншыя рабілі гэта прасцей.*

*З аднаго прымака з-пад Беластока, мабыць, і цяпер яшчэ пацяшаюцца людзі.*

*Прымака-недарэку цешча выгнала з хаты. Пакрыўджаны мужчына зайшоў да маці, тая дала яму торбу ежы, і ён накіраваўся на ўсход шукаць долі. Ішоў цэлы тыдзень. За Баранавічамі распытаў людзей пра граніцу. Тыя растлумачылі: будзе моцная агароджа з калючага дроту, за ёю лясок, а там - СССР.*

*Ноччу прымак наткнуўся на высокі плот з калючым дротам... пералез агароджу і заявіў чалавеку са стрэльбай:*

*- Таварышу, бярыце мяне, я цяпер ваш!*

*А гэта быў вартаўнік. Недарэка залез у Радзівілаў сад.*

(...)

***

*Ва ўяўленні страшаўцаў Савецкая Беларусь была раем на зямлі.*



*Недзе каля 1930 года за мяжу ўцёк халасцяк з суседняй вёскі Зубкі - Раман, але пасля двух месяцаў чамусьці вярнуўся. Бацька запрасіў яго да нас. Раман з'явіўся разбіты, пануры, маўклівы і пастарэлы. Пасадзіў бацька госця за стал, выгадна расcеўся сам, сабраўся слухаць:*

*- Ну, то расказвай, як там.*

*Раман доўга маўчаў ды ўздыхаў. Тады пачаў расказваць, што ён на ўласныя вочы бачыў, як там стаяць у чарзе па звычайны хлеб.*

*На хвіліну ў нашай хаце запанавала цішыня.*

*Раптам схапіўся бацька:*

*- А-а, мярзотнік, паспелі ўжо і цябе купіць паны. Прэч з маёй хаты, прадажная скура!*

*Чалавек сумеўся:*

*- Выслухай мяне, мы ж сваякі нават з табой! - дрыжачым голасам сказаў Раман.*

*- Прэч, нягоднік. - бацька заскрыгітаў зубамі, сашчапіў кулакі і затупаў нагамі.*

*Раман толькі заплакаў і пайшоў.*

*Больш ён нікому не сказаў ні слова. З нашай хаты пайшоў на зубкоўскія агароды і ўтапіўся ў маленькай рэчаццы.*

*Мамін брат Іван выехаў такі ў Канаду, паступіў на лясныя работы. Калі зарабіў грошай, купіў турыстычную пуцёўку. З Таронта паехаў па ёй ў СССР і там застаўся назаўсёды.*

*Праз некалькі гадоў у нашу хату пранікла чутка, што ў Савецкім Саюзе арыштавалі дзядзьку Івана, бо юн быццам бы - амэрыканскі шпіён.*

*З часам пра ворагаў нар ода загаварылі па радыё з Масквы і Мінска.*

*- Што натварылася!*

*- Мусіць, так трэба. У Маскве - разумнейшыя за нас, ведаюць, што робяць...*

*- Сталіна не правядзеш, ён усё бачыць....*

*З болем, уздыхаючы, талкавалі мужыкі ў Страшаве.*

*- Наш Іван не мог пайсці супраць сваіх людзей, не мог быць шпіёнам. - цвердзіла мама.*

(...)

***

*Вярталіся аднаго разу хлопцы ноччу праз стойбішча ў Каралеўскім лесе. Юлік чагосьці адстаў, і ў гушчары на яго накінуўся згаладнелы ці ашалелы воўк. Пакуль сябры дабеглі, Юлік задушыў звера голымі рукамі. Пра здарэнне нават пісала беластоцкая газета і паслала хлопца на бясплатныя ўколы ад шаленства.*

*- Што-што, а я ваўкоў ведаю добра, - казаў мой бацька. - Хлусяць усе. Юлік сабаку задушыў.*

(...)

***

*Баба нас перасцярагала - моцна не дзьмі, а то будзе расшырэнне лёгкіх, не скачы, бо расцягнеш жылы на нагах, не наядайся вельмі, а то будзе разцяжэнне жывата.*

*Гэта баба расказала, што ў цэнтры Беластока зусім няма платоў. Мы з Валодзькам здзіўляліся і спачувалі беластачанам: як жа яны, бедныя, без платоў там жывуць?!*

# МЕСЦА ДЛЯ ЗАНАТОВАК

„Вандроўнае слова" — аднадзёнка — наклад 300 экз.
Беласток, лета 1994 г.
Рэдактар газеткі: **Ян Мордань**
Камп'ютарны набор тэкстаў: **Міраслава Лукша**
Тэхнічны рэдактар: **Юрка Хмялеўскі**
Галоўны фундатар вандроўкі: **Ministerstwo Kultury i Sztuki Rzeczypospolitej Polskiej.**